


ДЗЕЙНАСЦЬ „ЗМАГАННЯ"



СУЧАСНЫЯ СІРОТЫ!



JESIENNY PAN


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 3 (516) ГОД XI 16 СТУДЗЕНЯ 1966 г. ЦАНА 60 гр.


Горад мой, шчаснай парою
расцеш ты,
умаяны ў зелень вясною
увесь ты.

О, колькі ўкласці працы стараннай
трэба,
каб залячыць тваю кожную рану
кавалкам хлеба.

Кавалкам хлеба, ад вуснаўаднятым
з ахвотай,
каб харасто было больш багатым,
як наша работа.

Уладзіслаў Бранеўскі

# ГОД ДОБРЫХ СПАДЗЯВАННЯЎ

У апошніх днях мінулага года радныя Ваяводскай рады нарадовай сабраліся ў Беластоку на чарговую чацвёртую сваю сесію Найважнейшай справай, якую прышлося вырашыць прадстаўнікам беластоцкай грамадскасці, з'яўляецца б'юджэт ваяводства на 1966 год.

Бюджэт — гэта сімфонія лікаў. Яны акрэсліваюць мэты і намаганні нашых імкненняў, яны даюць вобраз заможнасці і гаспадарчых магчымасцей Беласточчыны. У бюджэце лікі ўзаемна зазубляюцца як шасцярні ў машыне Жыццё тут пералічана на залатоўкі, гектары і кілаграмы. І сапраўды цяжка пазбегнуць лікаў хаця яны мучаць памяць і не доўга застаюцца ў яе гасцях.

Беласточчына — гэта хлебаробніцкі басейн. Сельская гаспадарка ў нас заўсёды ставіцца на першым месцы. Пасля чарговых худых гадоў мінулы год быў для сялян годам тлустым. Вядома вось, што прырост агульнай сельскагаспадарчай прадукцыі ў гэтым годзе дасягнуў амаль 13 працэнтаў. Такога прыбытку за адзін год даўно ўжо не наглядалася.

Што гэта абазначае?

Хопіць толькі ведаць, што на працягу цэлай пяцігодкі, якую завяршыў мінулы год, прырост агульнай сельскагаспадарчай прадукцыі склаў у нас усяго ледзь 15 з палавінай працэнтаў.

Але гэта таксама сухі бюджэтны сказ, які не рысуе нейкага яркага малюнку. Прашу тады ўявіць дадатковыя тысячы тон усялякага збожжа, бульбы і буракоў, аграмадныя чароды кароў і свіней, цэлае возера малака, пpасторныя плошчы лугоў, на якіх не палохае ўжо дрыгва, новыя агранамоўкі, грукатню трактараў і другіх машын, прыгажосць свежа пабудаваных сялянскіх дамоў, хлявоў і клуняў, электрычнае святло ў многіх вёсках... Рэестр можна прадаўжаць успамінаючы пра цэмент і штучныя ўгнаенні, пра вопратку і мэблю, пра радыёпрыёмнікі і тэлевізары, пра матацыклы і... усяго не ўспомніш. Дастаткова аднак ужо таго, каб неяк растлумачыць, што змяшчаецца ў сухіх працэнтах.

Дык як, цешыцца?

Так, але не надта ж. На пачатку толькі што закончанай пяцігодкі планавалі для гаспадароў нашага ваяводства, што даб'юцца яны прыросту прадукцыі ў звыш 25%. Цяпер кіраўнікі сельскай гаспадаркі

(Працяг на стар. 2)



Варшава ноччу.

# Прыяцелі Белавежы

У белавежскім батанічным парку зямля пацята равамі, рэдкія рабочыя задуменна стаяць над імі Па кладцы праходжу ў дырэкцыю. Шукаю прыяцеляў Белавежы, якія штотыдня шлюць весткі, запрашаючыя прыехаць да іх.

На дзвярах урэшце прозвішча, якое мне трэба: Януш Фаліньскі — адюнкт. Ён кіраўнік геабатанічнай станцыі Варшаўскага універсітэта. 7 год таму пачаў сваю працу ў Белавежы, а зараз з'яўляецца старшынёй Таварыства прыяцеляў Белавежы. Заснавальнікі, да якіх яшчэ залічым мгра інж. Аколува, — кусташа музея, мгра Альшэўскага, кіраўніка школы — Касцялецкую, кіраўніка Дома дзіцяці — Кустраня, рашылі, што найлепш будзе якраз Таварыства п р ы я ц е л я ў, бо прыяцель вялікае слова. Заданне вызначылі сабе: расказваць аб пушчы, разам з людзьмі яе, вёскамі, гаспадаркай. Не толькі расказваць, але і актывізаваць асяроддзе. Лекцыі, спатканні, фільмы, кірмашы, выстаўкі — формы, якія ўжо ўведзены як пастаянная і сістэматычная праца прыяцеляў Белавежы.

Аб выстаўцы «Паўвеку Белавежы на паштоўках» пачула, што сабралі тых паштовак 200 штук. Ад часоў царскіх (яшчэ палац, яшчэ рампа — здымкі ад Левана Семянюка з Белавежы), і ад розных людзей - калекцыянераў. Адным з найбольшых аказаўся Чэслаў Аколуў, які пушчу мае на паштоўках, але таксама і ў сэрцы. Аб пушчы прыводзіць лікі факты вучоных і эканамістаў з усяго свету. Душагрэйка хавае яго ад холаду, які пануе ў Белавежскім музеі, і яго кіраўнік можа толькі ўздыхаць па цяпла, хоць і на гэта не заўсёды ёсць час.

(Працяг на стар. 4)




### МАКСІМ ТАНК — СТАРШЫНЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БССР

**Вядомы беларускі пісьменнік Максім Танк выбраны старшынёю Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.**

**Законы і пастановы апошняй сесіі Вярхоўнага Савета БССР датычылі развіцця народнай гаспадаркі Беларусі, а таксама ўведзена шмат персанальных змен на кіруючых пасадах. М. ін. міністрам фінансаў Беларускай ССР назначаны Баляслаў Шаціла.**

### ПЛЕНУМ ЦК

**Адбыўся пленум ЦК Камуністычнай партыі Беларусі, прысвечаны абмеркаванню задач на 1966-ы сельскагаспадарчы год. У дыскусіі ў час пленума выступалі, між іншымі, В. Мікуліч — першы сакратар Брэсцкага абкома КПБ. Н. Малочка — старшыня выканкома Гродзенскага абласнога Савета дэпутатаў працоўных.**

### СВЯТА БЕЛАРУСКАГА РАДЫЁ І ТЭЛЕВІЗІІ

**У Мінску адбылася ўрачыстасць прысвечаная 40-годдзю Беларускага радыё і 10-годдзю Беларускай тэлевізіі. Ва ўрачыстасці ўдзельнічалі сакратары ЦК Кампартыі Беларусі, міністры, пісьменнікі, дэлегацыі іншых рэспублік.**

**Сорак адна асоба адзначана высокімі дзяржаўнымі ўзнагародамі за заслугі ў развіцці Беларускага радыё і тэлевізіі.**

### УЗНАГАРОДЫ

**Высокія дзяржаўныя ўзнагароды Беларускай ССР атрымалі: група спартсменаў беларускай футбольнай каманды «Дынама», рэкардсмен свету ў кулявой стральбе В. Пархімовіч і інш.**

### ДЗІЦЯЧЫ СТАДЫЁН - ШКОЛА

**У Мінску будуюць, так званую, рэспубліканскую дзіцячую спартыўную школу. Зойме яна каля 5 гектараў. Тут будзе пабудавана шмат адкрытых і крытых аб'ектаў для практыкавання важнейшых відаў спорту.**

### «МАЛАДНЯК»

**Ілюстраваны літаратурны дадатак да насценгазеты «Слова філолага» пад назваю «Маладняк» пачалі выпускаць студэнты - філолагі БДУ імя Ул. Леніна.**



**На здымку: у кафэ «Бярозка» ў Мінску. Тут вельмі прыемная мэбля, дэкарацыя. (СЯ)**

# Год добрых спадзяванняў

**(Працяг са стар. 1)**

ў ваяводстве раскладаюць рукі і гавораць: не змаглі, перашкодзілі аб'ектыўныя цяжкасці.

Не пярэчу. Аб'ектыўныя цяжкасці былі. Сельская гаспадарка — гэта фабрыка без даходу. Яе вытворчасць усё яшчэ непасрэдна залежыць ад капрызаў прыроды. Але аб'ектыўныя цяжкасці гэта чарадзейскае слова, якое прыкрывае таксама негаспадарлівасць і мядзвежую паваротлівасць — так многіх сялян, як і многіх кіраўнікоў сельскай гаспадаркі.

Вялікі шанц для хлебароба — кантрактацыя. На ліхіх землях Беласточчыны многа не зваюеш, але жыта і ячмень можна амаль усюды. Кантрактацыя гэтых культур высока аплочваецца сялянам. У ваяводстве прадбачылі, што сяляне ў гэтым годзе закантрактуюць звыш 50 тыс. гектараў гэтых раслін. Дагэтуль, на жаль, знайшлося вельмі мала адважных. Адважных? Не! Разважлівых, якія ўпору падлічылі карысці. Вось менавіта — сяляне замала ў нас яшчэ лічаць.

Колькі ж было крыку: давайце штучныя ўгнаенні! Цяпер яны ёсць. Ваяводскія ўлады вымалілі дадатковыя прыдзелы, сельскагаспадарчыя банкі і ашчадна - пазыкавыя касы не шкадуюць крэдытаў на іх пакупку, а штучныя ўгнаенні ляжаць на складах, займаюць месца патрэбнае, для прыкладу, на збожжа, растуць рэманенты і можа дайсці да таго, што Міністэрства сельскай гаспадаркі абрэжа наступным разам прыдзелы, сцвярджаючы цалкам слушна: у вас штучных угнаенняў не купляюць, значыць яны вам непатрэбны.

А гэта няпраўда! Штучныя ўгнаенні неабходны не толькі на палях, але і на лугах. Меліярацыя сенажацяў паглынае штогод сотні мільёнаў злотых. Асушаць дрыгву, заруць мох, пасеюць высакаякасную траву і на гэтым часта канец. Сенажаць зноў дзічэе. Каб да гэтага не дапусціць, неабходна пастаянна яе дагледаць і ўгнойваць.

Нягледзячы на гэтыя адмоўныя з'явы сялянам належыцца шчырая падзяка за іх працу ў мінулым годзе. Дабіліся яны ўраджаю ў звыш 16 цэнтнераў з аднаго гектара чатырох збожжавых культур, добра даглядалі бульбу і цукровыя буракі. Такога ўраджаю дагэтуль яшчэ не было.

Добрыя гаспадарчыя вынікі мінулага года ствараюць спрыяльныя ўмовы для гаспадарчых дасягненняў у гэтым 1966 годзе. Гэты год асабліва важны. Ён з'яўляецца першым годам чарговай пяцігодкі, стварае для яе грунт добрага старту.

Бюджэт на 1966 год складае суму амаль 3 мільярдаў злотых. На працягу мінулага года пабагацелі мы на звыш 124 мільёны злотых. На патрэбы сельскай гаспадаркі ваяводская рада адводзіць 955 мільёнаў злотых. Многа, бо на звыж 40% больш чымсці ў мінулым годзе. Але гэта не ўсё. Грошы для сялян знаходзяцца ў сельскагаспадарчых банках, чакае на выкарыстанне фонд развіцця сельскай гаспадаркі, з дапамогай сялянам спяшыць ПЗУ. Разам у 1966 годзе назбіраецца аж 2 мільярды 357 мільёнаў злотых, якія маюць напоўніць жывой крывёю жылы беластоцкіх гаспадарак.

Прадбачваецца, што асноўныя намаганні будуць накіраваны на захаванне поўнай раўнавагі між развіццём раслінная і жывёлагадоўчай прадукцыі. Агульныя задачы ў 1966 годзе застаюцца аднак больш-менш на ўзроўні мінулага года. У плане на першае месца вылучаецца дапамога ПГР-ам, дрынаж палёў, меліярацыя і загаспадараванне сенажацяў, электрыфікацыя вёсак і механізацыя апрацоўкі зямлі. На канец гэтага года палі Беласточчыны мае араць аж 1329 трактараў. Адзін трактар, калі браць статыстычна, прыпадзе на тры вёскі,

Будзе гэта год добрых спадзяванняў.

**ВІКТАР РУДЧЫК**

P.S. Бюджэт характарызуе ўсе галіны гаспадарчага жыцця ваяводства. У сваіх заўвагах я свядома абмежаваўся толькі да некаторых праблем сельскай гаспадаркі. Пра другія справы будзем пісаць у чарговых нумарах нашага тыднёвіка. Добра ж ведаць, чым мы багаты.

# Грамадскі апякун

Мы прывыклі цаніць людзей паводле іх высокай і «важнай» функцыі. Але ёсць у нас грамадскія дзеячы, якія вядуць надта гуманную, надта людскую працу. Маю на думцы апеку над людзьмі, якія засталіся без радні, або радня іх пакінула, людзі якія часта без нашай дапамогі не змаглі б сабе даць рады ў жыцці.

Адным з іх у Бельскім павеце з'яўляецца Ул. Антанюк, настаўнік з Дзянісак. У яго пад апекаю ў мінулым годзе было 5 чалавек. Большасць з іх гэта людзі старэйшага ўзросту, хворыя і адзінокія. Вельмі часта трэба задбаць, каб ім прызналі пачкі з ядою або адзеннем. Калі ёсць патрэба, дык задбаць каб адвезці гэтага чалавека ў бальніцу, запоўніць адпаведныя паперы і т. д. Дзякуючы грамадскаму апекуну пабываў у санаторыі і вылячыўся ад туберкулёза Мікалай А. Зараз ён працуе самастойна на гаспадарцы.

Вось праца, якую мала хто бачыць, але цаніць павінны ўсе. (ак)

# Дзейнасць Беларускага сялянска-работніцкага

**ГЕНРЫК МАЕЦКІ**

**Міма роспуску ў 1927 годзе Беларускай сялянска-работніцкай Грамады, рэвалюцыйная дзейнасць на беларускай вёсцы не зменшылася. Былыя члены Грамады, не зважаючы на тэрар з боку санацыйных улад, не адмовіліся ад палітычнай дзейнасці. У выбарах у тэрэновае самакіраванне, якія адбыліся ў чэрвені 1927 года, жыхары шматлікіх гмін супольна галасавалі на людзей, якія сваёю дзейнасцю звязаны былі з Грамадою. Адміністрацыйныя ўлады з непакоем сцвярджалі ў сваіх справаздачах, што ў Беластоцкім, Гродзенскім і Ваўкавыскім паветах у гмінныя рады (між іншым у Гарадку, Міхалове, Харошчы, Юхнаўцу, Заблудаве, Ялоўцы і г. д.) увайшлі былыя дзеячы Грамады[1]). У Ваўкавыскім павеце адміністрацыйныя ўлады запісалі факт вядзення палітычнай дзейнасці праз гурткі аб'яўленай паза законам Грамады[2]).**

**Дзеячы Грамады пранікалі ў легальныя грамадскія арганізацыі і прабавалі накіраваць іх на рэвалюцыйны шлях барацьбы з санацыйным рэжымам.**

**На акруговым з'ездзе прадстаўнікоў гурткоў Таварыства беларускай школы ў Гродне дня 14. XI. 1928 года прынята рэзалюцыю, якая асуджала дзейнасць Радаслава Астроўскага і тых беларускіх палітыкаў, якія пайшлі на пагадненне з санацыяй. Дэлегаты злажылі пашану зняволеным паслам Грамады. У прынятай на з'ездзе рэзалюцыі пісала, між іншым: «Сабраныя выказваюць пагарду здраднікам беларускай ідэі, адначасова выказваючы пашану сапраўдным змагарам беларускай справы, зняволеным беларускім паслам і Беларускаму пасольскаму клубу, які змагаецца на тэрыторыі сейма за беларускія справы і патрабуючы адкрыцця дзяржаўных беларускіх школ»[3]).**

**У другой рэзалюцыі ўдзельнікі сходу салідарызаваліся з бастуючымі тэкстыльшчыкамі Лодзі.**

**Адміністрацыйныя ўлады ў сваёй справаздачы сцвердзілі, што Таварыства беларускай школы выразна пераходзіць на шлях палітычнай дзейнасці, што супярэчыць прадпасылкам статута гэтай арганізацыі. Не заўважалі яны, аднак, таго факту, што нацыяналістычная палітыка санацыйнага ўрада ў галіне асветы і культуры спіхае беларускіх дзеячаў, неаднойчы нават з памяркоўнымі поглядамі, на шлях рэвалюцыйнай барацьбы.**

**У выбарах у заканадаўчы сейм у 1928 годзе ў выбарчых акругах № 5 (Беласток, Саколка, Ваўкавыск) і № 6 (Гродна, Сувалкі і Аўгустаў) унесены былі спіскі Беларускага сялянска - работніцкага з'яднання. Спіскі кандыдатаў у паслы адкрывалі рэвалюцыйныя дзеячы Грамады: Браніслаў Тарашкевіч і Пётр Мятла. Абодва ўнесеныя спіскі быліануляванымі санацыйнымі ўладамі[4]).**

**У выніку выбараў у 1929 годзе ў сейме паўстаў Беларускі сялянска - работніцкі пасольскі клуб «Змаганне». Паміж клубам «Змаганне» а Грамадою існуе не толькі ідэалагічная сувязь, але таксама і асабовая. Большасць дзеячаў «Змагання», між іншым Ігнат Дварчанін, выйшлі з радоў Грамады. Паслы «Змагання» ўтрымлівалі сувязь з выбаршчыкамі за пасрэдніцтвам павятовых сакратарыятаў клуба. Дзейнасць рэвалюцыйных паслоў «Змагання» станавілася ўсё больш цяжэйшай ва ўмовах наступаючай пасля майскага перавароту фашызацыі палітычнага жыцця краіны. Паслы «Змагання» часта былі пазбаўлены права арганізаваць пасольскія мітынгі, хаця паслам з іншых партый улады не ставілі больш сур'ёзных перашкод. Усё ж такі на тэрыторыі Беласточчыны адбылося шэраг пасольскіх мітынгаў «Змагання». Гэтыя мітынгі адыгрывалі агромную ролю ў прапагандванні рэвалюцыйных лозунгаў. Пасля аб'яўлення па-за законам Грамады і Незалежнай сялянскай партыі, «Змаганне» было побач з ППС-Левіцы адзінаю арганізацыяй, якая магла, нягледзячы на перашкоды, якія ставілі адміністрацыйныя ўлады, весці легальную дзейнасць.**

**Адміністрацыйныя ўлады зрабілі справаздачу з пасольскага мітынгу Ігната Дварчаніна і Язэпа Гаўрыліка, які адбыўся 8 студзеня 1929 года ў Гарадку. Паслы гаварылі аб цяжкай долі беларускага народа, аб прыгнёце санацыйнага ўрада і г. д. Пасол Дварчанін падаў сабраным праект рэзалюцыі наступнага зместу:**

**«Патрабуем падзялення памешчыцкай зямлі паміж малазямельных беларускіх сялян без выкупу. Патрабуем 8-гадзіннага дня працы, патрабуем звальнення ўсіх палітычных вязняў, патрабуем адкрыцця зачыненых беларускіх школ, патрабуем не перашкаджаць дзейнасці Таварыства беларускай школы. Кляймуем з пагардаю і адкідаем здраднікаў беларускай справы — прымірэнцаў: Астроўскага і Станкевіча»[5]).**

**Рэзалюцыя была прынята аднагалосна. Дварчанін пачаў спяваць беларускі гімн: «Ад веку мы спалі...», які падхапілі сабраныя і даспявалі яго да канца. На мітынгу было прысутных каля 300 чалавек[6]).**

**9 кастрычніка 1929 года ў Орлі ў Бельскім павеце адбыліся два пасольскія мітынгі: ППС — Станіслава Дзюбуа і «Змагання» — Флегонта Валынца і Яна Грэцкага. Першым адбыўся пасольскі мітынг Дзюбуа, які сабраў каля 100 чалавек. Сабраным, відаць, больш падабаліся моцныя, поўныя рэвалюцыйнага запалу выступленні беларускіх паслоў, чым спакойныя, утрыманыя ў рамах афіцыйнай палітыкі ППС выступленні**

Настаўнікам беларускай мовы

# Складанне плана і пераказ прачытанага

З мэтай лепшага разумення зместу прачытанага апавядання або артыкула і паслядоўнасці ходу падзей трэба навучыць дзяцей складаць план прачытанага. Для замацавання ў памяці дзяцей зместу прачытанага неабходна навучыць іх пераказваць тэкст твора.

Пачынаючы ад першага года навучання, трэба вучыць дзяцей пераказваць змест прачытанага спачатку па пытаннях, а потым і самастойна.

Дапаможныя пытанні, якія настаўнік будзе ставіць па тэксту, і будуць з'яўляцца некаторай формай плана.

У школьнай практыцы звычайна прыступаюць да складання элементарнага плана ўжо ў I і II класах. Складанне плана тут пачынаецца з малявання самых простых малюнкаў па зместу частак чытаемага тэксту.

У падзеле артыкула на часткі, у прыдумванні загалоўкаў і малюнкаў да гэтых частак, прымае непасрэдны ўдзел настаўнік.

Дзеці вучацца складаць план у працэсе чытання. Настаўнік прапануе вучню чытаць закончаную частку апавядання, а потым вучні калектыўна, па пытаннях настаўніка, устанаўліваюць, аб чым яны чыталі і даюць назву прачытанаму. Другую частку чытае другі вучань, і ёй таксама даецца загаловак. Такім чынам, разам з чытаннем тэксту складаецца план. Прасцейшымі формамі назваў частак з'яўляюцца пытальныя і апавядальныя сказы. Больш цяжкай формай складання простага плана з'яўляецца форма назоўнага сказа. Да гэтай формы плана трэба перайсці ў 5—7 класах. Неабходна, каб загаловак часткі адпавядаў зместу прачытанага. План павінен адлюстроўваць ідэйны напрамак зместу, а не просты пералік падзей ці здарэнняў.

Настаўнік можа даць вучням гатовы план і прапагаваць, каб яны ўстанавілі па тэксту, дзе пачынаецца і дзе канчаецца кожная частка чытаемага апавядання. Такі від работы можна ўжо праводзіць з 4—5 класам.

Складанне загалоўкаў плана з'яўляецца вельмі карысным для развіцця мышлення вучняў. Са складаннем плана цесна звязана работа па пераказу прачытанага.

Вучні пачатковай школы любяць расказваць апавяданне блізка да тэксту. Гэта не з'яўляецца перашкодай у рабоце настаўніка. Настаўнік толькі павінен строга сачыць у адным выпадку за тым, каб вучань рабіў пераказ свядома, каб для яго было зразумелым усё тое, аб чым ён гаворыць. Калі вучань перакажа прачытаны тэкст выключна сваімі словамі, гэта значыць, што ён поўнасцю зразумеў прачытанае. У сваім пераказе вучань не зможа перадаць усіх эмоцый і адценняў сэнсу прачытанага, ён яшчэ не валодае мовай так, каб выказвацца ярка і прыгожа.

Каб узбагачаць мову вучняў праз кнігу, неабходна патрабаваць ад вучняў вольнага пераказу, у якім спалучаецца пераказ сваімі словамі са скарыстаннем кніжных выразаў. Такі пераказ будзе карысным для развіцця мовы і мыслення вучняў, бо ён садзейнічае глыбокаму разуменню прачытанага і ўзбагачэнню мовы дзяцей новымі словамі і зваротамі. У малодшых класах трэба карыстацца пераказам, блізкім да тэксту, як больш простай формай пераказу. Сціслым пераказам можна займацца ўжо ў 4 класе ў канцы вучэбнага года.

Не ўсякі тэкст можна пераказаць, а таксама і складаць план па яго зместу. Ёсць рад высокамастацкіх вершаў, якія нямэтазгодна пераказваць, а таксама складаць планы па гэтых вершах, таму што яны будуць траціць музычнасць, эмацыянальнасць. У такіх выпадках лепш устрымацца ад складання плана па дадзенаму зместу верша, а таксама і перадачы яго сваімі словамі. Лепш такі верш або яго частку завучыць напамяць.

Пераказ па плану і яго перачытанне дапамагаюць вучням лепш уявіць і змест і структуру апавядання, артыкула або верша. А.К.

## Сельская гаспадарка без таямніц

Што найважнейшае ў нашым харчаванні? Мяса? Мабыць, не. Бульба? Важная, але не найважнейшая. Значыць... Вядома, хлеб, без якога нельга абысціся ані адзін дзень. Так у нас, так і ў большасці краінах свету.

Аказваецца, што на свеце вядома ўжо каля 300 тыс. відаў раслін. Чалавек выкарыстоўвае для сябе 23 тыс. відаў, з таго вырошчвае 1500, а на ворнай зямлі — 100. Сярод іх рашаючае месца займае іменна збожжа. Збожжа займае ў свеце 553 млн. гектараў, а ў Еўропе 74 млн. га, рыс. — 109 млн., проса — 107 млн., кукуруза — 94 млн., ячмень — 55 млн., авёс — 33 млн., а жыта 14 млн. гектараў.

У нашым ваяводстве многіх відаў збожжа наогул няма. Галоўным чынам вырошчваем жыта, пшаніцу, ячмень і авёс. 3 609 тыс. гектараў, занятых пад збожжам на Беласточчыне, 332 тыс. прыпадае на жыта. Найменшую плошчу займае пшаніца (50 тыс. га) і ячмень (40 тыс. га).

Давайце прааналізуем становішча ў гэтай галіне. Аказіяй да гэтага хай паслужаць сёлеташнія курсы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі, на якіх вырошчванне збожжавых культур пастаноўлена на ганаровым месцы, а таксама моцна пашыраная ў гэтым годзе кантрактацыя. Зімою шмат будзе гаварыцца на гэтую тэму. Гэта зразумела, бо збожжа займае ў нас 60%

### Гэта хлеб

структуры пасеваў. Ад ураджаяў збожжа вельмі залежаць даходы беластоцкай вёскі.

Некаторыя, маючы на думцы павелічэнне колькасці зерня, прапануюць павялічыць плошчу пад збожжа. Але такі падыход толькі здаецца правільным. Трэба дабівацца павышэння ўраджайнасці з гектара, і тады з той самай плошчы можна збіраць больш зерня.

У 1965 годзе беластоцкія сяляне атрымалі ў сярэднім па 16,5 ц. збожжа з гектара. Гэта вялікае дасягненне. Такіх ураджаяў у нас яшчэ не было. Гэтае дасягненне — не толькі вынік добрых кліматычных умоў гэтага лета, але цэлага шэрагу дзейнікаў на чале з мінеральным угнаеннем.

Нягледзячы на гэта, баланс збожжа ў ваяводстве (велізарная колькасць зерня ідзе на жывёлагадоўлю) застаецца і далей адмоўны. Дэфіцыт складае яшчэ каля 40—50 тыс. тон збожжа. Калі б толькі павысіць ураджай на 1 ц з гектара, можна лёгка ліквідаваць дэфіцыт. Адным з метадаў, якія вядуць да дасягнення гэтай мэты, трэба назваць патрэбу змяншэння плошчы пад жыта і авёс, і павелічэння плошчы пад пшаніцу і ячмень. Практыка паказала, што сярэднія ўраджаі пшаніцы ў нас на 2 ц з гектара большыя ў параўнанні з іншымі відамі збожжа. У апошнія гады ў нас найгоршыя ўраджаі дае авёс. Іменна таму трэба абмежаваць пасевы аўса і павялічыць пасевы пшаніцы і ячменю. Вядома, па найлепшых глебах.

Інж. М. Сухажэбрскі

# Клопаты з інтэлігенцыяй

(фельетон)

1

Набліжаецца чарговы з'езд БГКТ. У сувязі з гэтым на старонках «Нівы» вядзецца дыскусія, у якой з паэтычнай шчырасцю вытыкаецца таварыству ўсе яго недамаганні і сур'ёзныя хваробы. Пацяшаючым, аднак, застаецца той факт, што дыскутанты бачаць пачатак дрэннага. А пачаткам гэтым з'яўляюцца клопаты з беларускай інтэлігенцыяй. Не толькі ў апошнім часе, але і раней неаднойчы гаварылася і паўтаралася, што таварыству ў яго працы не хапае адпаведна кваліфікаваных людзей. Ды зрэшты не толькі таварыству. На кім абапіраецца праца ў павеце, у гуртках, у школах?

2.

Людзі вучацца на тое, каб маглі — здабыўшы адпаведныя веды — распачаць працу на вызначаным адрэзку грамадскага жыцця. Па гэтаму прынцыпу, між іншым, здаецца, была адкрыта кафедра беларускай філалогіі пры Варшаўскім універсітэце. Яна — а не хто іншы! — мела застацца кузняй беларускай інтэлігенцыі, якая працавала б сярод беларусаў, а не ў польскім асяроддзі, адыгрываючы там ролю «недапечанага» русісты ці другога прафесіянала. У такім выпадку кафедра беларускай філалогіі застаецца акном у свет, адной з магчымасцей зрабіць тытул «магістра» — асноўную ж функцыю яна траціць.

3.

Вясковая моладзь, адчуваючы ўсю цяжкасць свайго асяроддзя, бо амаль што аўтаномнай грамадскай адзінкі, стараецца ўсімі сіламі вырвацца з-пад яе ўплыву. Не там працаваць, дзе кожны крок і ўчынак будзе асуджаны блізкімі людзьмі, працаваць у сталічнай ананімнасці, бачыць сябе ў людскім натоўпе, дзе ніхто нікога не ведае — вось асноўнае імкненне чалавека з вёскі.

Ці таму не вяртаюцца ў родныя гнёзды выпускнікі беларускай філалогіі?

Па сынах і дочках застаецца толькі добры ўспамін. Бацькі адны, а інтэлігенцыя разрастаецца ў Варшаве. **І. Чыквін**

### Сучасная жанчына

#### МЫЦЦЁ СТАЛОВЫХ ПРЫБОРАЎ

Важнай справай у хатняй працы кожнай жанчыны з'яўляецца мыццё сталовых прыбораў і пасуды. Перш за ўсё трэба мець міску спецыяльна адведзеную для мыцця пасуды, шчотачку або шматку-мачалку і парашок або пеністую вадкасць. У міску наліваем моцна гарачай вады, уліваем крыху пеністай вадкасці (спецыяльна для мыцця пасуды прадаюцца ў бутэльках «Tip-top», «Miralux». Можна таксама ўліць і «Kokosal», «Mersapon», нават «FF»), або сыплем парашок. Мыем шчоткаю або мачалкаю, якую навязваем на кіёчак, каб не нішчыць рук. Пасуду мыем у дзвюх водах. У другой вадзе, цёплай, спалоскваем. Затым выціраем чыстым, сухім пасудным ручніком (сцеркаю). У магазінах прадаюцца сушылкі для пасуды, тады яе не трэба выціраць.

Асабліва дбаць трэба пра нажы і вілкі. Спачатку выцерці іх папераю, каб сцерці астаткі ежы. Мыць таксама цёплаю вадою і выціраць насуха. Вілкі выціраць трэба вельмі дакладна — укладваць паміж зубы матэрыял і пераціраць моцна, каб не засталося рэштак ежы і вільгаці. Тыя нажы і вілкі, якія рэдка ўжываюцца (толькі падчас вялікай гасціны), перакласці папераю, або матэрыялам і пакласці ў сухое месца.

**АКСІННЯ**

ЧЫМ МЫ БАГАТЫЯ?

## Новыя заводы

Год 1965 лічыць трэба надта ж тлустым у развіцці прамысловасці Беластоцкага ваяводства. Закончылася пабудова фабрыкі стружкавых пліт у Сувалках, млына і фабрыкі кармоў для жывёлы ў Старасельцах і крухмальні ў Ломжы. Гэтыя прадпрыемствы пачалі ўжо нармальную прадукцыю.

Адначасова шматзначна разбудаваліся ўжо існуючыя прадпрыемствы цяжкага промыслу ў Беластоку, Фастах, Чорнай Беластоцкай і ў Гайнаўцы. Такім чынам паспяхова загушчаецца сетка прамысловай карты Беласточчыны. Статыстычна прадстаўляецца гэта так, што за адзін папярэдні год промысел ваяводства павысіў сваю агульную прадукцыю аж на 16 працэнтаў. Так высокага тэмпу прыросту прамысловай прадукцыі не наглядалася на працягу ўсяе толькі што закончанай пяцігодкі

(вр)

# У ХАЦЕ КАМАРОВАЙ

Кусок палявой, так будзем называць па традыцыі, дарогі ад гасцінца да Кошак не страшыць. Нават наш Владэк — шафёр, якога бічом не загоніш уехаць аўтамашынай на няпэўную дарогу, сюды скручвае спакойна. Шырокая, аўтастраду можна будаваць, дарога, і не гразнем. Кошкаўцы самі навезлі яе і такім чынам адчынілі дзверы ў сваю вёску, якая славіцца саламянымі матамі, хорам, новай святліцай і гасціннымі людзьмі.

Святліца і хор. Святліца стаіць. Была зачынена, але даведаліся, што адкрыта яна ў суботу і нядзелю, а таксама ў дні, калі хор мае рэпетыцыю. Тады кафлёвая печка цёплая і ўсюды ад яе цёпла і ўвогуле прыемна ў святліцы. Сёння якраз ніводзін з гэтых дзён не выпаў, хоць меў выпасці, бо ж мы спецыяльна ехалі на рэпетыцыю хора, якая не адбылася. Жыццё ідзе шпарка, і здараецца таму многа непаразуменняў паміж людзьмі. Адно такое дробнае якраз не дазволіла нам пабачыць і паслухаць кошкаўска - грэдалёўскага хору, які ўжо год часу існуе, а мне, што скрываць, пахвальна аб ім напісаць у «Ніве». Думаю аднак яшчэ трапіць у Кошкі без непаразуменняў. Выслухаць хору і... пахвальна аб ім напісаць у «Ніве».

У кошкаўскіх дамах (не хатах), як за часоў нашых бабак і прабабак, стаяць кросны. А ўсё ж такі гэта не тыя хаты і не тыя вёскі. Кросны служаць цяпер для прагрэсу, а не абазначаюць адсталасці. Кроснамі зарабляюцца вялікія грошы, патрэбныя сучаснай новай эканоміцы вёскі. На кроснах не ткуцца зрэбныя кашулі (іх ніхто нідзе ў вёсцы не носіць), на кроснах ткуцца прыгожыя саламянкі — упрыгожанне для сцен, ходнікі, цікавыя гардзіны на вокны.

Жанчына, якая, няхай сабе для выгоды і босымі нагамі, перабірае падножкі кросен, умее гаварыць, многа рабіць і лічыць. Яна многае бачыла, параўняла, зразумела.

Яе сын — студэнт картаграфіі ў Вроцлаве Прыехаў вось на канікулы і, не трацячы часу (які на вагу золата), вывучае філасофію, бо пасля канікулаў экзамен. Другі яе сын, нячулы на шумных гасцей, утаропіўся ў газету і што яму хто. Такая вясковая хата ў Кошках. Хата Камаровай, як усе кажуць.

**Вера Леўчук**

 



ЧАРОЎНАСЦЬ ЗІМЫ

Лыжны трамплін Каўгалава пад Ленінградам увесь у снежным покрыве. Тут праводзяцца зімовыя спартыўныя гульні Савецкага Саюза.

Фота ЦАФ

# ХТО ВЫРАТУЕ ВЕЖУ?

Больш за тысячу прапаноў атрымала італьянская ўрадавая камісія, занята арганізацыяй міжнароднага конкурсу праектаў па ўмацаванню славутай Пізанскай нахільнай вежы. Гэты вядомы помнік архітэктуры XII стагоддзя знаходзіцца цяпер у аварыйным стане. Адхіленне вяршыні вежы ад вертыкальнай восі складае цяпер больш як 5 метраў. Вежа па-ранейшаму працягвае «падаць». Хоць штогодняе адхіленне складае, на першы погляд, вельмі нязначную велічыню — толькі адзін міліметр, будучыня вежы выклікае трывогу. Адны эксперты сцвярджаюць, што вежа можа прастаяць у такім становішчы яшчэ каля 200 гадоў, на думку іншых, моцнага ветру можа быць дастаткова, каб яна перакінулася. Асаблівую трывогу выклікае той факт, што гэты 15.000-тонны гмах узведзен на забалочанай глебе, што можа вельмі нечакана прывесці да катастрофы. Для выпрацоўкі ўмоў конкурсу камісія мае намер правесці рад доследаў, для чаго, у прыватнасці, плануецца прабурыць шчыліну глыбінёй да 50 метраў і нават прасвяціць самую вежу рэнтгенаўскімі промнямі.

Атрыманыя праекты прадугледжваюць самыя розныя вырашэнні праблемы. Адны прапануюць утрымліваць вежу з дапамогай сістэмы блокаў, другія раяць перанесці яе на больш цвёрдае месца, трэція лічаць, што трэба ўмацаваць грунт шляхам пасадкі спецыяльных раслін.

Аўтары некаторых праектаў, прысланых у адрас камісіі, прапануюць паставіць вежу перпендыкулярна да зямлі, як гэта было зроблена ў Савецкім Саюзе з падаючым мінарэтам у Самаркандзе. Аднак жыхары Пізы баяцца, што ў гэтым выпадку вежа страціць сваю прывабнасць для шматлікіх турыстаў, і таму настойваюць, каб яна была захавана ў ранейшым стане.

Не абышлося і без кур'ёзаў: адзін амерыканец прапанаваў пабудаваць такую ж «статую Свабоды», як у Нью-Йорку, якая падтрымлівала б вежу, другі прадпрымальны янкі выказаў жаданне купіць вежу і перавезці яе ў ЗША.

Сур'ёзныя праекты атрыманы з Савецкага Саюза, Чэхаславакіі, Індыі, Польшчы, Японіі, Францыі і некаторых іншых краін.

# ФУТРОВАЕ БАГАЦЦЕ



Агульны выгляд звера-гадоўчай фермы.



Норка ў клетцы.

На ферме футровых звяркоў у эстонскім калгасе імя Вільда гадуюць норкі і лісы, якіх налічваецца там 11.400 штук. Найвялікшай славаю калгаса з'яўляюцца блакітныя лісы, якіх вельмі шукаюць на рынках свету і за якія плацяць агромныя сумы грошай.

Фота: ЦАФ

## Ультрагук супроць камароў

Канадыйскія вучоныя даказалі, што ўльтрагук можа быць эфектыўным сродкам супраць... камароў. Ультрагук з частатой 200 тысяч ваганняў у секунду паралізуе дыхальныя органы лічынак камароў, і яны гінуць.

(ака)

## Практычнасць

Вядомы амерыканскі інжынер Томпсан лічыў, што ніякая сіла не павінна трацішца марна, без карысці для чалавека. Здарылася так, што да Томпсана аднойчы завітаў яго сябра. Яму трэба было ўвайсці праз брамку, што вяла ў сад.

Прывітаўшы гаспадара дома, госць, між іншым, заўважыў, што не ўсякі можа адчыніць гэту брамку. Надта ўжо туга ходзіць яна на завесах. Госць параіў змазаць іх.

— І не думаю, — адказаў інжынер. — Брамка злучаецца з гідраўлічным прыборам. Кожны чалавек, які жадае ўбачыць мяне, павінен спачатку выцягнуць два вядры вады і выліць яе ў садовую кадушку.

Прыяцель толькі развёў рукамі ад дасціпнай выдумкі гаспадара дома.



## Вельмі дзіўная пара

Двухгадовы Трац мае хіба найбольш дзіўнага сябра: малога цюленя, якога бацька хлопчыка знайшоў на прыморскім пляжы (ва ўсходняй Англіі). Цюлень некалькі тыдняў жыў у доме бацькоў хлопчыка: то знаходзіўся ў пакойчыку Траца, то... ў ванне. Але ванна аказалася даволі малым памяшканнем для вельмі хутка растучага жыхара. Трэба было цюленя аддаць у заалагічны парк. Расставанне адбылося са слязьмі, малы Трац супакоіўся толькі тады, калі яму паабяцалі, што будзе наведваць сябра ў новым месцы яго жыхарства.

На здымку: Трац і цюлень, абодва захапляюцца сабою..

(а-ліў)

## З В'ЕТНАМА



Жанчына з дзяцьмі ратуецца ад амерыканскіх бомб.

---

аляксей карпюк

# ПУШЧАНСКАЯ АДЫСЕЯ

На поўнач ад Скрабляцкага лесу, ля мястэчка Крынкі, па вёсках жывуць беларусы, палякі, нават татары. Крынкаўскі амтскамісар не такі тупы і бязмогі, як яго сябры ў Гарадку, займаецца справамі болей значнымі. Стаў вызываць па аднаму аўтарытэтных сялян і дурыць:

— Палякі! На вас скардзяцца беларусы з татарамі. Чаму вы дазваляеце, каб з вас яны здзекваліся? Дам вам зброю, пакажыце хамам, дзе ракі зімуюць!

— Беларусы! Няўжо вы такія бездапаможныя, каб вас піхалі палякі? Учора мне тут заявілі, што калі не выселяць вас немцы адгэтуль, то яны вас памардуюць. Завошта вас высылаць, тут жа ваша радзіма!.. Бярыце ў мяне вінтоўкі, кулямёты, не паддавайцеся! Калі вас пачнуць крыўдзіць, скардзіцца не хадзіце, бо ў немцаў цяпер і сваіх клопатаў хапае...

Прыкладна тое самае сказаў і татарам.

Такім чынам крынкаўскі амтскамісар узброіў з дзесяць вёсак, самых адсталых на Гродзеншчыне і Беласточчыне. Пры Пілсудскім, памятаю, тут вербавалі «стшэльцаў», адсюль быў славуты кат дэфензівы Палтужыцкі. Гарадоцкія фабрыканты і купцы лесу тут куплялі штрэйкбрэхераў. За апошнія дваццаць пяць гадоў улады на нашай тэрыторыі мяняліся разоў восем-дзевяць і палітычныя перамены мясцовыя галавэрзы выкарыстоўвалі для асабістых парахункаў: выдавалі суседзяў, рэзалі, стралялі, пушчалі адзін аднаго з дымам. У параўнанні са Страшавам ці Гры-

164

баўцамі гэтыя вёскі адсталі на якія сто год. Свядомых мужыкоў немцы перастралялі ў пачатку вайны, выдаць знайшлося каму. Калі я вярнуўся са Штутгофа, на поўнач ад Скрабляцкага лесу партызаны не паказвалі носа, бо там адразу паўставала страляніна. Верхаводзіў солтыс Тарноўскі. Страляніну пачыналі самаахоўшчыкі, Тарноўскі гнаў конніка ў Крынкі, адтуль на машынах прыбывалі салдаты...

Штаб брыгады загадаў гэтыя вёскі асвоіць. З Вайцяхоўскім разглядалі мы карту і ламалі галовы, як выканаць загад.

Папрасіўся ў атрад масквіч Вася. Ён уцёк з лагера, цэлы год жыў ва ўдавы, памагаў гаспадарыць. Прыбыў да нас з пісталетам, вінтоўкай. Я згадзіўся яго прыняць.

— Не гарачыся, Алёша, — стрымаў мяне камбрыг і звярнуўся да хлопца. — Столькі часу, мілы Васілёчак, людзі пралівалі кроў, а ты ўсё хаваўся ў бабы за спадніцай і еў верашчаку? Заслужы права быць сярод нас. Стань парабкам у Тарноўскага, дакладвай нам, што ў яго адбываецца. Будзеш спраўляцца — прымем у атрад!

І як пайшоў Вася ў Каўняны два тыдні таму назад, дык нібы ў ваду капуў...

— ...Ах, сястры-ычка мая мілая, чаму твая до-оля така-ая, — выводзіць кабета. — Даруй мне, старой, што не ўсцерагла цябе, не падставіла свае грудзі пад тваю ку-улю...

— Міра! Міра! — адцягвае яе Нікіціна. — Хопіць плакаць, пашкадуй і сябе, ты ёй гэтым не дапаможаш! На, вады хлябні з біклажкі!

Але Міры цяпер няма справы ні да Нікіцінай, ні да вады, ні да нас. З пушчы выпаўзаюць усе астатнія, бездапаможна тоўпяцца над мёртвымі.

— Не збірацца ў адно месца! — разганяе іх Косця. — А то секане з кулямёта, і ляжам усе покатам!

Камісара нібы не чуюць. Твары здзіўленыя, жахлівыя. Лічу жывых. Семнаццаць. Зводдаль глядзіць на мяне Кардаш, нібы папракае: нягоднік, яшчэ падазра-

165

ваў гэтых няшчаслівых!.. Сам не свой хаджу сюды-туды. Наступаю на нейкія валікі. Патрон. Яшчэ з вострым смуродам парахавых газаў.

— Глядзі! — паказваю Кардашу.

— Рускі! — дзівіцца той.

Знаходжу ў мосе яшчэ з сотню такіх жа.

— Дык хто па вас тут страляў? — пытаюся ў Смірнова.

— Нейкія ў цывільным...

— Ні аднаго немца не было сярод іх! — скардзіцца кучаравы.

— Ну-у-у? — дзівіцца Косця.

— Гэта — банда Тарноўскага!

Як я не здагадаўся адразу! Прыйшлі б сюды немцы, дык напэўна сумелі б абкружыць і перастраляць усіх. Разгром учынілі сяляне — самаахоўшчыкі За некалькі буханак хлеба, збанкоў малака і дзесятак галовак падгнілай капусты з мінулага года загубілі людзей! Хочацца абрынуць на здраднікаў такую дубіну, каб адным скрышыць змяіныя гнёзды. Не быць мне камандзірам у гэтых месцах, калі не выкараню іх! Яшчэ ў Гута-Міхаліне чуў, як у адным месцы пераапранутыя за немцаў партызаны абдурылі прадажнікаў, хоць ніхто з хлопцаў не ведаў нямецкай мовы.

— Пойдзем і правучым раз і назаўсёды, пакончым з імі!

— Пайшлі! — падхопліваюць не менш узлаваныя Косця і Сашка.

— Чакай нас тут! — загадваю Смірнову. — Другі раз не прыйдуць, не бойся, будуць чакаць засады. Пахавай забітых. Пазбірай бульбу, наварыце есці, накармі людзей. Мы вернемся яшчэ!

— Вазьміце і мяне з сабой! — просіцца кучаравы.

Да задумы не хапае аднаго чалавека, а хлопец падабаецца.

— Як цябе зваць?

— Міша Лук'янаў.

— Валяй па дарожцы наперад. Спаткаеш каго, свішчы «Кацюшу», мы — следам!

— Зразумела!

ПРАЦЯГ БУДЗЕ

166



 




### НЕ ХАЦЕЎ ПЫТАЦЬ

— Ну, што сказаў лекар пра тваю хваробу?

— Што нельга піць ні віна, ні піва...

— А гарэлку?

— Пра гарэлку нічога не казаў, а я не хацеў пытацца...

# УСЯЧЫНА



**ШТО ГЭТА ТАКОЕ?**

Цяжка, зразумела, адразу адгадаць, што гэта звычайны электрычны выключальнік з накінутым на яго ручніком.




— Ірад ты наш! Паглядзі на сябе. Чэрці качалі цябе ў снезе? Рукавіцы і чаравікі хоць ты выкручвай. У чым пойдзеш у школу? Скідай усё да ніткі. Сушыць трэба!

Пад градам матчыных слоў, сын думаў: — Добра было б не ісці ў школу, на санках весялей.

— Чаго напучыўся, бы баран на званіцу, скідай прыадзевак!

Увайшоў бацька, абмахаў венікам валёнкі, і глянуўшы на сына, сказаў:

— Нагуляўся ты з красуняю-зімою, у маладосці маёй, бывала, таксама гулялі.

— Кажы-кажы яму, іншым разам яшчэ больш нанясе снегу, — забурчала баба.

— Усяго снегу не пераносіць. Учора расчышчаў дарожкі, а сёння іх як і не было.

Развесіўшы адзежу сына каля печы, маці грымела вёдрамі і збіралася пайсці па ваду.

Як толькі знікла маці, на парозе паказаўся сусед:

— Вось добра! Жонкі няма, а нам пад такі снег трэба было б штосьці сёетое...

— Не паспееш ікнуць, як жонка паявіцца, — запэўніў бацька.

— Бяры кавалак рэбраца, печаны хлеб, а рэдкае я маю, ціхае месцайка знойдзем.

— Выходзіш на спатканне з бутэлькаю? — запытала маці бацьку.

Яна з'явілася неспадзявана, як з-пад зямлі.

Бацька круціць жартам:

— Мыслі ў цябе пакумячаныя, бы валасы. Іду чысціць дарожкі-сцежкі.

— Ведаю вас, дарожку ў буфет чысціце!

Мужчыны выйшлі. Вечарэла. Махалі рыдлёўкамі. На астатак прачысцілі дарожку да хлява. Залезлі на вышкі ў сена. Было цёпла. Пасяджэнне пачалі пры агні батарэйкі.

Калі змаглі рэдкую мудрасць, разважалі аб машынах, якія змянілі жыццё ў вёсцы. Машыны змянілі вёску, толькі бабы засталіся такія самыя.

Потым сябры паснулі.

Прачнуліся надосвітку. Выйшлі на панадворак. Была адліга, снег асеў, цяклі ручаіны і сталі калужыны.

— Дарэмна мы напрацаваліся, сусед, — сказаў адзін з іх.

— То ж так яно, — згадзіўся другі.

— Пад вечар пабачымся, бывай, — сказаў бацька і ў мокрых валёнках пашлёпаў дахаты. У кухні распрануўся. Паціху зайшоў у пакой. Заглянуў у ложак, сын спаў і ўсміхаўся праз сон.

«На санках з'язджае з горкі, прачнецца, пакрыўдзіцца на адлігу», — думаў бацька і гняздзіўся спаць.

*Дзядзька Лявон*

## АНКЕТА

Дырэктару
«Укропкапустатрэста»
Спатрэбіўся на працу вартавы.
Ды хоць завый —
Не падбярэ нічога ён на гэта месца.
Перагартаўшы тузіну анкет,
У кожнай з іх
знаходзіў ён заганы:
То невядома, чым займаўся дзед,
Калі служыў,
Дзе.
У якога пана?..
То сам прасіцель —
Толькі паглядзі —
Які ён касавурысты на фота...
Давер яму адказную работу!..
Такому ў зубы палец не кладзі...
І здарылася так,
Што на пасаду гэту
Казёл прасіцца да дырэктара
прыйшоў
І што вы думаеце? —
Падышоў
Па ўсіх артыкулах анкеты.

**Мікола Макаеў**



Кітайская сценгазета.



■ Кажуць, што ў Гайнаўскім будаўляным кааператыве «Чын» з мэтай паменшання так званых уласных коштаў прадукцыі праведзена рэдукцыя штатаў. У выніку гэтай аперацыі на аднаго рабочага кааператыву выпадае цяпер адзін працаўнік адміністрацыі. Дрэнная прапорцыя? Дудкі! У гісторыі сустракаліся шматлікія прыклады, калі адзін рабочы ўтрымліваў дзесяць, а то і больш, асоб — «адміністратараў». Напрыклад, у старажытнасці.

■ Кажуць, што ў адказ на закіды ў перадз'ездаўскай дыскусіі аб дрэннай працы гурткоў БГКТ паклікана спецыяльную Камісію для Пошукаў Добра Працуючага Гуртка (КДПДПГ). Камісія ўжо выбрала сваё праўленне і падкамісіі, а таксама правяла некалькі плённых пасяджэнняў.

■ Кажуць, што ад парад Сэрпайка натварылася шмат дзіваў. Усіх тых, хто сур'ёзна падышоў да парад, спаткала няшчасце. Тыя ж, што, прачытаўшы парады, паступілі наадварот, пазбеглі непрыемнасцей і цешацца жыццём.

**(лм)**



Без слоў.

Кур'ёзы

### НОВАЯ ДЫСЦЫПЛІНА

Супрацоўнік сіднейскай радыёстанцыі Фрэд Дарбін дабіўся рэкорда яшчэ ў адной «спартыўнай дысцыпліне». На адбыўшымся нядаўна спаборніцтве ён чысціў зубы няспынна на працягу сарака адной гадзіны, прыбеўшы ў непрыгоднасць адзінаццаць зубных шчотак.

**АКЕНЦА ДУМАК**

Чалавек, якому ніхто не падабаецца, куды больш нешчаслівы, чым той, які сам нікому не падабаецца.

Франсуа дэ Ларашруко (1613—1680) — французскі пісьменнік

**ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ**

По просьбе Яўгеніі Варабей з Рагачоў, Сямяціцкага павета змяшчаем польскую песню п. з.

## JESIENNY PAN

*Słowa: W. Młynarski* *Muzyka: R. Orłow*



*Choć nie wiem kto to jest*
*I nie wiem skąd go znam,*
*Czasem spotyka mnie*
*Jesienny śmieszny pan.*

*Parasol wielki ma*
*I zmartwień trochę też,*
*Przez pusty idzie park*
*W czerwony liści deszcz.*

*Lecz gdy ostatni liść*
*Ze smutnych spadnie drzew,*
*On razem z białą mgłą rozpływa się....*

*Gdy park pożółknie znów,*
*Powróci znowu tam,*
*jesieni szukać barw*
*Jesienny śmieszny pan.*

*A wtedy spotkam go*
*I pójdę z nim przez park.*
*On będzie blisko tak*
*mych rąk, mych warg....*

*Gdy świat pożółknie znów*
*I biała wzejdzie mgła*
*Będziemy razem szli,*
*Jesienny pan i ja...*



Без слоў.

### АПОШНЯЕ ПЫТАННЕ

Выкладчык: — Слаба, вельмі слаба. Вось вам апошняе пытанне: з кім ваяваў Аляксандр Македонскі? Адкажыце — пастаўлю «здавальняюча».

Студэнт: — З многімі.

Выкладчык: — Ну, а з кім іменна?

Студэнт (з выглядам пераможцы): — А гэта ўжо яшчэ адно пытанне.

### ХЛЕБ З РЫБАЮ

Сядзіць ля рэчкі чалавек, хлеб есць. Сусед, падыйшоўшы, пытае:

— Што ты робіш тут?

— Хіба не бачыш, — адказвае чалавек, — ем хлеб з рыбаю...

— А дзе ж твая рыба?

— У вадзе.

### ПАРАІЎ

Бацька запытаў у пяцігадовага сына: — Як будзем зваць маленькую сястрычку?

— Няхай вырасце, а тады мы ў яе спытаем, як яе завуць, — адказаў сын.

### ПАКРЫЎДЗІЎСЯ

Таварыш кажа свайму госцю:

— Ведаеш, я не магу спакойна гаварыць, калі нас падслухоўваюць.

— А я і не падслухоўваю, — адразу ж чуецца пакрыўджаны голас за дзвярыма.




Хто робіць даносы, ад даносу памірае.